Published by BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE 25 ¢.

Address: BIELARUS 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVI. № 95 Люты 1965. NEW YORK — TORONTO February 1965. Vol. XVI. № 95

## ВАШЫНГТОНСКІЯ УРАЧЫСТАСЬЦІ Й ЯДЗЕРНЫ ВЫБУХ

Прэзыдэнт Джансан пачаў 20-га студзеня 1965 г. свой чатырохгадовы тэрмін кіраваньня Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі. Урачыстасьці, што з гэтае нагоды адбыліся ў Вашынгтоне, былі людныя, маляўнічыя й падкрэсьлена мірныя. Прэзыдэнт Джансан, прыкладам, у сваім звароце да народу прысьвяціў увагу бадай выключна пытаньням палепшаньня духовага й матар'яльнага дабрабыту, а на традыцыйным парадзе, што адбыўся ў рамах вашынгтонскае ўрачыстасьці, у вадрозьненьне ад папярэдніх гэткіх парадаў, вайсковыя аддзелы ўдзелу наагул не бралі.

Дысанансам да такога мірнага характару сьвята — і якраз у самы дзень урачыстасьці — была вестка пра радыяактыўныя ападкі, якія былі вынікам надаўнага савецкага падземнага ядзернага выбуху, праведзенага ў раёне Семіпалацінску.

Гэтак вось у ваднымі дні прыпадкам ці, хутчэй за ўсё, ня прыпадкам, зьбегліся два галоўныя аспэкты сучаснае рэчаіснасьці: пытаньне мірнага быту й пытаньне кантролю ядзернай сілы.

Радыяактыўныя ападкі савецкага ядзернага выбуху былі занесеныя вятрамі церазь Кітай і Японію й паўночныя часткі Ціхага акіяну й выкрытыя там амэрыканскімі высокалётнымі самалётамі.

Як ведама, падпісаная ўлетку 1963-га году ўмова аб спыненьні ядзерных выпрабаваньняў дазваляе рабіць выбухі пад зямлёй, але так, каб радыяактыўныя ападкі не даставаліся за межы дзяржавы, што гэткія выпрабаваньні праводзіць.

Амэрыканскі ўрад адразу-ж зьвярнуўся да савецкага ўраду з просьбай вылісьціць гэты выпадак. з радыяактыўнымі асадкамі. Некатарыя з назіральнікаў выказваюць думку, што савецкія інжынеры, што праводзілі выбух, праз памылку чагосьці не дагледзелі. Камэнтатары бо ня бачаць пакуль што адзнакаў, што Савецкі Саюз хоча парваць умову аб спыненьні ядзерных выпрабаваньняў. Наадварот, у Амэрыцы гэтымі часамі назіральнікі выказваюць думкі, што паміж Задзіночанымі Штатамі й Савецкім Саюзам ідзе далей на збліжэньне.

Што да радыяактыўных ападкаў савецкага выбуху, дык у Вашынгтоне ўважаюць, што гэты выпадак трэба было-б выкарыстаць, як прычыну, каб пашырыць умову аб спыненьні ядзерных выпрабаваньняў ды спыніць далейшыя выбухі й пад зямлёй.

Паказальна, што ў той самы дзень, калі прэса падала вестку пра радыяактыўныя ападкі, Прэзыдэнт Джансан у прамове, якою пачаў свой чатырохгадовы пэрыяд у Белым Доме, казаў:

„Падумайце, як выглядае з тае ракеты, што цяпер ляціць на Марс, нашая зямля. Яна — як дзіцячы глёбус вісіць у прасторы, і кантынэнты прыліплі да ейных бакоў, як каляровыя карты. Мы ўсе — падарожнікі на гэтым клубочку зямлі. І кажны з нас у прасьцягу часу мае запараў толькі часьціну сярод сваіх сяброў. Як неверагодна, што ў гэтым мімалётным існаваньні мы павінны ненавідзець і нішчыць адзін аднаго. Магчымасьцяў ёсьць удосыць для ўсіх, хто хоча пакінуць панаваць над іншымі, каб імкнуцца апанаваць прыроду. Сьвету даволі ўсім, хто прагне шукаць сабе шчасьця сваім спосабам. І шлях гэтага краю выразна ясны. Мы ня прагнем нічога, што належыць іншым. Мы ня імкнёмся панаваць пад субратам-чалавекам, але хочам, каб чалавек панаваў над тыраніяй і нягодамі."

Гэта словы Прэзыдэнта Джансана.

Мірнае суіснаваньне ў цяперашнім сьвеце, бязумоўна, не належыць да лёгкіх справаў. Прэзыдэнт Джансан, як бачым, хоча рабіць усё магчымае й годнае свабоднага чалавека, каб гэтае суіснаваньне кіравацьда палепшаньня жыцьця.

З.

## БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ

**Галоўная Управа — Акруга Нью Ёрк — Аддзел Нью Джэрзі**

— ладзяць —

**УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 47-ЫХ УГОДКАЎ АКТУ 25 САКАВІКА**

**якое адбудзецца ў нядзелю 21 сакавіка 1965 г.**

У ПРАГРАМЕ

1. **10-ая гадзіна раніцы: Урачыстая Божая Служба** ў Катэдральным Саборы БАПЦарквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (401 Атлянтык авэню).
2. **2:30 гадзіна папаўдні: Урачыстая Акадэмія** з мастацкімі выступленьнямі ў залі

**BILTMORE HOTEL** (Music Room)
**Madison Avenue and 43rd Street, New York 17, N. Y.**

У Акадэміі асабіста прыйме ўдзел Прэзыдэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі **Мікола Абрамчык** і выступіць з прамовай. Пасьля Акадэміі — **Кактэйль**, удзел у якім — 5 даляраў ад асобы.

## Рэзалюцыя сэнатара Дырксэна

З нагоды 47-х угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Украіны, што спаўніліся 22 студзеня сёлета, сэнатар Эвэрэт Дырксэн, лідэр сэнацкай рэспубліканскай фракцыі, запрапанаваў Сэнату прыняць адмысловую Рэзалюцыю ў вабароне паняволеных народаў. Дзеля таго, што Рэзалюцыя датычыць усіх народаў, паняволеных маскоўскім бальшавізмам, у тым ліку й беларускага народу, ніжэй зьмяшчаем ейны поўны тэкст:

**
*

**Дзеля таго,** што камуністычны рэжым Савецкага Саюзу ня прыйшоў да ўлады ў усходняэўрапэйскіх краінах у выніку легальнага або дэмакратычнага працэсу, але навет нахабна зламаў урачыстыя запэўненьні й забавязаньні, узятыя на сябе на Ялтанскай канфэрэнцыі 8ь лютага 1945; і

**Дзеля таго,** што Савецкі Саюз запярэчыў самавызначэньне шляхам вольных выбараў у гэных краінах, выкарыстаўшы ня толькі вялікія збройныя акупацыйныя сілы, але й спосабы народазабойства ў шмат якіх краінах, ведамых як паняволеныя нацыі; і

**Дзеля таго,** што сувэрэннасьць і незалежнасьць былых вольных урадаў гэных нацыяў, паняволеных савецкім камунізмам, былі належна вызнаныя й далей вымагаюць вызнаньня й маральнага падтрыманьня; і

**Дзеля таго,** што паняволеньне людзкіх свабодаў і запярэчаньне свабоднага гандлю й камунікацыі з іншымі краінамі становіць загрозу для міру, чаго ня могуць цярпець і Задзіночаныя Штаты, і іншыя вольныя краіны або міжнародныя праўныя агенцыі; і

**Дзеля таго,** што ўрады й успомненыя паняволеныя нацыі, цяперака ў ярме савецкага камунізму, знаходзіліся заўсёды ў цесных дачыненьнях із Задзіночанымі Штатамі й стала прадаўжаюць даваць довады сваёй веры ў дэмакратыю працай і крывёй сваіх людзей:

**Дзеля таго вось, няхай будзе пастаноўлена Сэнатам (адначасна з Палатай Рэпрэзэнтантаў),**

што гэтым ён просіць Прэзыдэнта ўжыць такой дзеі, якая можа быць патрэбнай, каб перадаць Задзіночаным Нацыям да разгляду пытаньне пра насільнае ўлучэньне да Савецкага Саюзу такіх паняволеных краінаў і народаў, цяперака паза гэтак званай зялезнай заслонай: Украінцаў, Туркестанцаў, Беларусаў, Азэрбайджанцаў, Армянаў, Альбанцаў, Грузінаў, Баўгараў, Югаславянаў, Чаха - Славакаў, Румынаў, Літоўцаў, Латышоў, Эстонцаў, Вугорцаў, Палякаў і Усходніх Немцаў; ды рэзалюцыю, якая заяўляла-б, што:

а) Савецкі Саюз павінен адклікаць усе савецкія войскі, агентаў, каляніялістых і кантрольныя ўстановы з вышэй названых краінаў;

б) Савецкі Саюз павінен вярнуць усіх грамадзян успомненых паняволеных нацыяў у іхнюю бацькаўшчыну зь месцаў ссылкі ў Сібіры й расьцярушаньня па турмах і лягерах нявольніцкай працы па ўсім Савецкім Саюзе; і

в) Задзіночаныя Нацыі павінны правесьці вольныя выбары ў названых паняволеных краінах пад беспасярэднім наглядам Задзіночаных Нацыяў і правесьці суд над камуністычнымі двайнікамі нацыстаўскіх ваенных зланчынцаў, засуджаных у Нюрнбэрскіх працэсах.

## Пляны прэзыдэнта Джансана

Прэзыдэнт Джансан прыйшоў да высновы, што вайна, прынамся на працягу пару дзясяткаў год, сьвету не пагражае. Дзеля гэтага вось ён і паставіў на першы плян свае дзейнасьці пытаньні нутранага палажэньня Амэрыкі. Адно з найважнейшых зь іх — пытаньне забясьпечаньня кваліфікаванае мэдычнае апекі кажнаму жыхару Амэрыкі, які дасягнуў пэнсыйнага веку, г. зн. 65-ці гадоў. Справу гэтую запачаткаваў яшчэ Прэзыдэнт Кенэды. Джансан вядзе яе далей.

Сама ідэя гэткага забясьпечаньня, бясспрэчна, такая, што супраць яе нічога ня скажаш. На справу гэтую, аднак, патрэбныя вялікія грошы і пытаньне ўскладняецца з мамэнтам, калі пачынаюць абмяркоўваць, скуль узяць фінансавыя сродкі на пакрыцьцё выдаткаў лячэньня. Пытаньне таму з гуманітарнага становішча эканамічна-палітычным, і як гэткае, жвава цяпер абмяркоўваецца.

У сыстэме амэрыканскага палітычнага ладу народнымі грашыма распараджаецца Кангрэс. Да Кангрэсу Прэзыдэнт мусіць зьвяртацца з усялякімі законапраектамі, і Кангрэс вельмі часта гэтыя законапраекты адкідае або грунтоўна зьмяняе. Адкінуты быў ужо раз і законапраект мэдычнага забясьпечаньня старэйшых. Было гэта яшчэ за Прэзыдэнта Кенэды ў 62-м годзе. Законапраект быў адкінуты галоўна таму, што частка грамадзтва, а значыцца й ягоныя прадстаўнікі ў Кангрэсе, паставіліся супраць. А супраць паставіліся таму, што, паводле законапраекту, кошты мэдычнае апекі меліся быць раскладзеныя ў прымусовым парадку на ўсіх плацельнікаў падаткаў.

У разуменьні бальшыні Амэрыканцаў, аднак, мэдычнае страхаваньне — гэта справа прыватная, у якую дзяржава не павінна ўмешвацца. Такое разважаньне свомае Амэрыканцам. Выплывае яно з традыцыйнае ў гэтым краі свабоды прыватнае ініцыятывы. У вадпаведнасьці з такім паглядам, пабудаваная тутака й сама сыстэма мэдычнага страхаваньня. У Задзіночаных Штатах ёсьць каля дзевяцісот таварыстваў, у якіх мэдычную страхоўку маюць больш, чымся 150 міліёнаў жыхароў. Бязумоўна, частка людзей застаецца незастрахаваной, і ў выпадку хваробы імі мусяць апекавацца гарадзкія й штатныя органы дапамогі.

Ёсьць аднак у Амэрыцы, як ведама прымусовае сацыяльнае страхаваньне на старасьць. У сыстэму страхаваньня на старасьць Прэзыдэнт Джансан хоча цяпер увесьці й страхаваньне мэдычнае. Пра гэта ён заявіў яшчэ раз у сваім апошнім звароце да Кангрэсу ЗША ў студзені сёлета. Ад кажнага плацельніка падаткаў — паводля законапраекту — будзе брацца нейкі працэнт ягонага заробку на агульнае забясьпечаньне старэйшых грамадзянаў. І ў ліпені 1965 году, у сілу новага законапраекту, 18 міліёнаў Амэрыканцаў будуць мець дадатковую мэдычную апеку ў сыстэме сацыяльнага забясьпечаньня.

Апрача гэтага, урад Прэзыдэнта Джансана мае намер узмоцніць ролю дзяржавы ў мэдычным абслугоўваньні жыхарства наагул. Працягам наступных двух год на патрэбы аховы здароўя будзе выдаткавана больш за міліярд даляраў дзяржаўных грошай. Урад заплянаваў таксама пабудову ў розных пунктах Амэрыкі 32-х вялікіх мэдычных асяродкаў коштам міліярда двухсот міліёнаў даляраў. На стыпэндыі для мэдычных студэнтаў, досьледы, рэгабілітацыю калекаў ды інш. дзяржава мае адпусьціць дадатковыя сумы. Назіральнікі адзначаюць, што Прэзыдэнт Джансан, маючы цяпер за сабой вялікую бальшыню ў Кангрэсе, не зважаючы на галасы пратэсту, асабліва з боку Амэрыканскае Асацыяцыі Лекараў, здолее правесьці ў жыцьцё законы мэдычнага забясьпечаньня. І гэта, на думку шмат каго, будзе адным зь вялікіх дасягненьняў Амэрыкі паваеннага мірнага пэрыяду.

З.

### АДНАЎЛЕНЬНЕ КАНТАКТНАЙ КАМІСІІ ПАРЫСКАГА БЛЁКУ

Старшыня Выканальнага Органу Украінскай Нацыянальнай Рады й сябра Прэзыдыюму Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку) сп. Мікола Лівіцкі 5 студзеня сёлета на адмысловай зборцы паінфармаваў прадстаўнікоў нацыянальных цэнтраў, што ўваходзяць у Парыскі Блёк, аб сваёй дзейнасьці падчас дзесяцімесячнага прабываньня ў ЗША ды наведваньняў адказных дзяржаўных і палітычных дзейнікаў Амэрыкі. Прысутныя прадстаўнікі нацыянальных цэнтраў паняволеных народаў шырака абмеркавалі аб магчымасьцях і патрэбах нашае вызвольнае дзейнасьці ў вабліччы цяперашняй палітычнай сытуацыі ў сьвеце.

Ад Беларусаў былі прысутнымі на зборцы ген. Ф. Кушаль і д-р Ст. Станкевіч.

Каб ажывіць дзейнасьць на амэрыканскім грунце, аднагалосна было пастаноўлена аднавіць Кантактную Камісію Парыскага Блёку ў Нью Ёрку. У Кантактную Камісію былі выбраныя: за старшыню — праф. Д-р Рыгор Накашыдзэ (Грузін), за віцэ-старшыню—праф. Рамазан Карча (Паўночнакаўказец), за сакратара — інж. Аляксей Шэўчэнка (Украінец) за сяброў — д-р Станіслаў Станкевіч (Беларус) і рэд. Анатоль Гудзоўскі (Украінец).

### ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫЯ ВЕЧАРЫ

Дзеля ажыўленьня культурнай дзейнасьці сярод Беларусаў Нью Ёрку Управа Ньюёрскай Акругі БАЗА прыступіла да ладжаньня сыстэматычна кажнае сыботы Літаратурна-Навуковых Вечароў з дакладамі й дыскусіямі на розныя беларускія літаратурныя й навуковыя тэмы.

Першы Літаратурна - Навуковы Вечар адбыўся ў сыботу 6 лютага сёлета, у часе якога д-р Ст. Станкевіч прачытаў даклад на тэму „Савецкія асуджэньні „Нашай Нівы" й нашаніўства". Пасьля дакладу адбылася дыскусія.

Другі Навукова-Літаратурны Вечар адбудзецца ў сыботу 13 лютага з дакладам інж. М. Гарошкі аб жыцьці й дзейнасьці Прэзыдэнта БНР Пётры Крэчэўскага. Трэйці Літаратурна-Навуковы Вечар адбудзецца ў сыботу 20 лютага зь літаратурнамузычнай праграмай на тэму „Беларуская літаратура 20-ых гадоў". Чацьверты Вечар адбудзецца 27 лютага з дакладам д-ра Ст. Станкевіча на тэму „Спробы рэгабілітацыі „Нашай Нівы".

Літаратурна-Навуковыя Вечары адбываюцца а 6-ай гадзіне папаўдні ў залі Дому Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (166-34 Готык Драйв, Джэмэйка Гілл, 11432, Нью Ёрк). Уваход на Вечары вольны.

## 2-ГІ БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

30 травеня сёлета адбудзецца 2-гі Фэстываль беларускага народнага мастацтва на Сусьветнай Выстаўцы ў Нью Ёрку. За арганізаваньне гэтага Фэстывалю зноў узяліся, на жаданьне Выстаўкі, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў ЗША й Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі.

На паседжаньні прадстаўнікоў гэтых арганізацыяў 4 сьнежня 1964 г. быў створаны адмысловы Камітэт для правядзеньня Фэстывалю ў складзе: Анатоль Плескачэўскі — старшыня, М. Тулейка — кіраўнік праграмы, Н. Кушаль, А. Орса-Рамано, Б. Шчорс, В. Цярпіцкі — сябры Камітэту.

Камітэт імкнецца заангажаваць да ўдзелу ў вышэй успомненым Фэстывалі ўсе беларускія мастацкія сілы Амэрыкі й Канады, каб, за прыкладам першага Фэстывалю на Выстаўцы, належна паказаць працу беларускае эміграцыі ў кірунку захаваньня й разьвіцьця беларускага народнага мастацтва паза межамі Бацькаўшчыны.

Камітэт заклікае ўсіх да ўдзелу ў Фэстывалі, хто можа праявіць беларускае народнае мастацтва ў песьнях, музыцы, скоках і іншых сцэнічных выступленьнях.

Летвшні Беларускі Фэстываль на Сусьветнай Выстаўцы вельмі добра ўдала. Трэба спадзявацца, што сёлетні будзе яшчэ лепшы й больш пашырыць вестку пра Беларускі Край, ягонае мастацтва й імкненьні.

### НАШ НОВЫ АДРЫС

**Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Рэдакцыя газэты „Беларус" ад 1-га лютага сёлета месьціцца ў Доме Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ў Нью Ёрку. Іхны адрыс наступны:**
**BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,**
**National Headquarters**
**166 — 34 Gothic Drive,**
**Jamaica, N. Y. 11432**
**Tel. 739-9572.**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper of North America
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
Address in U.S.A.: 166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Address in Canada: Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 4.00 yearly.

**БЕЛАРУС** — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдаюць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртаваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкаю — 4 дал. на год.

# ПЕРАД ВЯЛІКІМІ УГОДКАМІ

Роўна за месяц Беларусы ў краінах Вольнага Сьвету ўрачыста адзначаць 47-ыя ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі векапомным Актам 25 Сакавіка. З гэтае нагоды варта ўжо сяньня прыпомніць пра гістарычны сэнс гэтае падзеі, пра веліч нацыянальнае ідэі, выказанае Сакавіковым Актам, ды пра ейную ролю ў нашым вызвольным змаганьні.

Акт 25 Сакавіка хавае ў сабе два вельмі важныя палітычныя аспэкты: ідэйны й юрыдычны.

Упяршыню пасьля страты дзяржаўнае незалежнасьці ў мінуўшчыне ў Сакавіковым Акце былі выразна сканкрэтызаваныя нашыя нацыянальна-вызвольныя ідэалы: **вольнасьць, незалежнасьць, дэмакратычнасьць.** Гэта тыя ідэалы, у імя якіх і для дасягненьня якіх Беларускі Народ вёў, вядзе й будзе весьці нацыянальна-вызвольнае змаганьне ў розных, дасяжных яму, формах.

З другога боку, Акт 25 Сакавіка мае ў сабе поўную юрыдычную сілу ў разуменьні міжнароднага права. Гэты Акт быў легальна абвешчаны законным дзяржаўным органам — Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, выбранай Першым Усебеларускім Кангрэсам у сьнежні 1917 году. Тады-ж Кангрэс і перадаў Радзе БНР усе свае паўнамоцтвы аж да часу новых свабодных выбараў у Беларусі. Сам-жа Кангрэс меў усе патрэбныя дзеля гэтага паўнамоцтвы, бо ягоныя дэлегаты, будучы свабодна выбранымі, мелі мандат ад самога Народу.

У гэтых двух аспэктах—ідэйным і юрыдычным — уся сіла й веліч Сакавіковага Акту. А для нас, палітычных эмігрантаў, што маюць магчымасьць маніфэставаць і прапагаваць у Вольным Сьвеце сакавіковую незалежніцкую ідэю, Акт 25 Сакавіка зьяўляецца наймагутнейшай ідэйнай і палітычнай зброяй. У гэтым і хаваецца прычына, што маскоўска-бальшавіцкія акупанты, патаптаўшы й паганьбіўшы гэтую ідэю на Бацькаўшчыне, але ня змогшы яе вырваць з народных сэрцаў, сяньня ўжываюць усякіх спосабаў, каб маральна разлажыць, ідэйна абяззброіць і палітычна скампраматаваць эмігрантаў, як носьбітаў сакавіковае ідэі.

Сяньня ёсьць ужо цімала довадаў, што дзейнасьць эміграцыі рознымі каналамі пранікае й у паняволеную Беларусь і там падымае на духу й абнадзейвае наш Народ. Вось чаму бальшавікі, якія раней старанна прамоўчвалі ў сябе дома існаваньне й дзейнасьць нашай эміграцыі, ад нейкага часу голасна аб ёй загаварылі. Загаварылі патое, каб як мага скампраматаваць эміграцыю ў вачох народу, абвінаваціць яе ў розных ваенных і неваенных злачынствах, прадставіць яе, як агентаў заходніх імпэрыялістых і падбухторшчыкаў да новае вайны.

Гэткім парадкам, наш найзьлейшы вораг поўнасьцяй дацэньвае небясьпеку для сябе з боку эміграцыі й не шкадуе нічога, каб толькі яе абясшкодзіць. На змаганьне з эміграцыяй ён мабілізуе ўслужлівых сабе пісьменьнікаў, публіцыстых ды псэўданавукоўцаў, якія пад дыктоўку органаў бясьпечнасьці хвабрукуюць усялякія нябыліцы пра эміграцыйных дзеячоў. Вораг выкідае вялізарныя сумы зрабаваных у народу грошай на друкаваньне й пашырэньне сярод эміграцыі паклёніцкай літаратуры. Ён, урэшце, выкарыстоўвае розныя спосабы разбуральнае дывэрсіі, ведзенай у радох эміграцыі замаскаванымі сваімі агентамі.

У ваблічы гэтага бальшавіцкага наступу супраць нас, як жывых носьбітаў сакавіковае ідэі, мы павінны паставіць перад сабой пытаньне: а ці мы таксама поўнасьцяй дацэньваем усю адказнасьць, узложаную на нас, як палітычных эмігрантаў? На гэтае, сяньня асабліва актуальнае пытаньне, няхай кажны з нас сам пашукае сабе адказу. Няхай кажны сур'ёзна задумаецца, ці із спакойным сумленьнем і пачуцьцём добра выконванага нацыянальна абавязку спаткае ён 47-ыя ўгодкі Вялікага Сакавіковага Акту!

# НЕАДКЛАДНАЯ СПРАВА

Бібліяграфічны ўлік друкаў у кажным краі — адзін з паказьнікаў арганізаванасьці дзяржаўна - культурнага й навуковага жыцьця. Калі кніжка надрукаваная, але ня ўлічаная бібліяграфічнай рэгістрацыяй, яна губляецца й для сучасьніка, і — тымбалей — для будучага дасьледніка. Таму рэгістрацыя друкаў, як цяперашніх, гэтак і даўнейшых, — важнае заданьне дзяржаўнае бібліяграфічнае службы. Для сучаснай беларускай бібліяграфіі асабліва важная рэгістрацыя даўнейшых друкаў пра Беларусь. А гэта з увагі на няспрыяльныя ўмовы, у якіх наш край знаходзіўся.

Працы на беларускія тэмы пісаліся да рэвалюцыі за межамі расейскай імпэрыі. Потым у Польшчы, незалежных Балтыцкіх дзяржавах, а таксама ў Нямеччыне. Нідзе гэтая беларусіка не рэгістравалася сыстэматычна. Багаты навуковы й літаратурны матар'ял, які магліб выкарыстоўваць сяньняшнія дасьледнікі, марнуецца, не сабраны, ня вывучаны.

Рэтраспэктыўная бібліяграфія для беларускае культуры й навукі мае таму вялікае значэньне. І перад бібліяграфамі БССР арганізацыя сыстэматычнае рэтраспэктыўнае бібліяграфіі Беларусі мусіла-б стаяць на першым месцы. А тымчасам гэтая справа ў БССР зусім занядбаная. У 1922-24 гадох пачалі былі выходзіць беларускія бібліяграфічныя паказьнікі: „Летапіс Беларускага Друку", прызначаны ўлічваць новыя друкі, і „Матар'ялы да Беларускае Бібліяграфіі", у якіх мелі ўлічвацца рэтраспэктыўна беларускі друк, і друк чужых аўтараў аб Беларусі. Напрыканцы 20-х гадоў, аднак, Беларуская Бібліяграфічная Камісія была зьліквідавана й было спыненае выданьне „Матар'ялаў да Беларускае Бібліяграфі". Гэткім парадкам, вось ужо бадай 40 гадоў, у галіне сыстэматычнае рэтраспэктыўнае бібліяграфіі ў Беларусі нічога ня робіцца. Выглядае, што ў гэтай галіне бібліяграфіі ўсё яшчэ застанецца ў моцы забарона з канца 20- гадоў.

Занядбаная ў БССР не адно рэтраспэктыўная бібліяграфія. Нічога ня зроблена і ў справе выданьня бібліяграфіі беларускае кнігі, хайбы адно за савецкія часы. Ня чуваць таксама, каб нешта рабілася над укладаньнем Бібліяграфічнага Даведніка беларускага друку, што ахапіў-бы беларускія друкі былое Заходняе Беларусі й друкі БССР. А выданьне-ж гэткага даведніка справа першараднае вагі.

Дарэчы будзе прыгадаць, што ў краёх Захаду справа беларускае бібліяграфіі стаіць куды лепш, чымся ў БССР. На Захадзе бо — бібліяграфічным улікам беларускіх друкаў пра Беларусь сыстэматычна займаюцца дзьве ўстановы: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва" і „Ўсебеларускі Архіў" з галоўнымі сядзібамі ў Нью-Ёрку.

**В. К.**

# НАШЫЯ СЬВЯТАСЬЦІ

**Ад Рэдакцыі:** Беларусы Мэльбурна (Аўстралія) выдалі „Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1965 год" пад рэдакцыяй айца Аляксандра К. Календар, выдадзены рататарным спосабам вельмі сьціпла, затое багаты й глыбокі рэлігійным і патрыятычным зьместам. Перадрукоўваем ніжэй з гэтага Календара артыкул „Нашыя Сьвятасьці", які асабліва актуальны ў сяньняшні мамэнт.

**
*

Шмат вялікіх народаў і вялікіх культураў ведае старадаўная гісторыя. Успомнім адно Вавілён, Эгіпт ды Рымскую Імпэрыю. А дзе цяпер усе гэтыя народы? Іх няма. Яны або зусім зьнікл, або памяшаліся зь іншымі народамі.

Але ёсьць адзін старадаўны народ, які праз тысячагодзьдзі захаваўся амаль непарушным, нат жывучы сярод чужых народаў. Ніякія буры й завірухі, ніякія навет шмат вышэйшыя культуры не зламалі ягонае апрычонасьці й самабытнасьці. У васнаўным ён застаўся тым, чым быў тысячагодзьдзі таму. Гэтым народам ёсьць народ ізраільскі.

У чым схаваная тайніца гэтае ягонае адпорнасьці на ўсякую асыміляцыю? Дзе ключ да разгадкі таго, што навет высокія чужыя культуры не маглі зламаць, ані навет пахіснуць духовай існасьці гэтага, так параўнальна малога сяньня, народу?

Гэтая тайніца й гэты ключ у вадным слове: Біблія. Біблія прызнаецца ня толькі Ізраільцянамі, але й усімі хрысьціянскімі народамі сьвятою кнігаю. Біблія — Божая кніга.

Але Біблія, зь іншага боку — і нацыянальна-патрыятычная кніга ізраільскага народу. Кажным сваім словам яна кажа яму: Любі Бога твайго, любі народ твой, любі зямлю тваю, любі традыцыі й звычаі твае, любі мову тваю — і ты не загінеш, навет калі будзеш у найгоршай няволі.

Біблія сьцьверджае гэтыя словы прыкладамі. Даволі ўспомніць тут кнігу Эстэр. Пэрскі паняволінік захацеў вынішчыць Ізраільцянаў. І вось знайшлася жанчына Эстэр, якая ня толькі пакрыжавала ягоныя пляны, але яшчэ й узвяліла свой народ. Ад таго часу кніга Эстэр сталася велічнай нацыянальнай кнігай ізраільскага народу.

Кніга Эстэр кананічная й для ўсіх хрысьціян. Яна ўзмацняе сэрцы ўсіх паняволеных, бо яна кажа, што Бог бароніць тых, каму дзеіцца крыўда, і раней ці пазьней карае панявольніка. Гэтая кніга падае нам яшчэ іншую праяву волі Божае: „кажны чалавек павінен быць гаспадаром у доме сваім і гаварыць моваю народу свайго".

Аб гэтым самым вучыць і Хрыстос. Нажаль, бальшыня хрысьціянскіх народаў ды навет царкваў не пайшла па шляху Бібліі й Хрыстовае навукі. Адгэтуль і хаос у сьвеце. Але як Біблія й навука Хрыста, так і ўся гісторыя чалавецтва гаворыць аб тым, што кажны народ можа будаваць свой собскі дом толькі тады, калі ў сваёй працы й змаганьні ён пэўны свае праўды й цьвёрда верыць у дапамогу Вышэйшае Моцы...

Наяўнасьць такіх самаахвярных адзінак у тым ці іншым народзе — довад таго, што гэты народ мае будучыню, што ён будзе жыць. Знайшоўшы свой нацыянальны ідэал, служачы яму й узвышаючы гэтым свой нацыянальны гонар, такі народ, паводля аднаго зь біблейскіх пракрокаў, стаецца „валам зубчастым, новым, войстрым, які будзе малаціць горы".

Народам, што даўно ўжо знайшоў свой нацыянальны ідэял, зьяўляемся й мы Беларусы. Мы жывём і будзем жыць, бо, будучы гэтулькі часу ў палоне, не паддаліся чужым і ўжо не паддамося. Мы таксама перахоўваем нашыя рэлігійна-нацыянальныя традыцыі, мы таксама ведаем, што Вышэйшая Моц бароніць нас і дапамагае нам. І мы маем нашую Эстэр — заступніцу. Гэта нашая слаўная, сьвятая Эўфрасіньня. Яна таксама перамагла не малыя матарыяльныя спакусы: багацьце й славу. Яна, сьціплая дзяўчынка, праявіла такую духовую сілу, што перад Ёю ў пакоры схіляліся тагачасныя валадары, зьдзіўленыя Ейным вялікім чынам. Ледзь ня дзіця, яна сталася тым „валам зубчастым", што малоціць горы. І таму Яна — нашая духовая Сьвятасьць.

Сьв. Эўфрасіньня напэўна сама не адчула свае велічнае духовае сілы, як не адчувала яе й Эстэр. Яна напэўна ніколі й ня думала, што станецца сьвятою для ўсіх нас — і праваслаўных і каталікоў, што будзе Апякункаю ўсяе Беларусі. Але Божая воля зрабіла Яе выбранаю судзінаю дзеля ўзмацненьня нашага духа. Калі кніга Эстэр уславаляе ізраільскіх жанчынаў, — і нашая сьв. Эўрасіньня перадусім выраз велічы духа нашае жанчыны. Яна перадусім іхная слава, а пасьля ўжо слава ўсяго нашага народу. Але ўсе мы цешымся зь велічы нашае Апякункі і зь Ейнае сьвятасьці. Сьвятасьць гэтая праменіць на ўвесь наш народ. І ўсе мы славім Яе й просім:

— „Сьв. Эўфрасіньня, малі Бога за нас! Некалі дзень Твой у нас будзе нашым вялікім нацыянальным Сьвятам".

Пазнаньне нашае праўды й нашых сьвятых ідэялаў ды пазнаньне іхнае згоднасьці з Божай Воляй праяўляецца ў нас ужо ня толькі ў тым, што мы маем вялікіх самаахвярных змагароў за нашыя Сьвятасьці. Мы ведаем і тое, што нашыя Сьвятасьці топчуцца рознымі гандлярамі, якія ня маюць нічога агульнага з навукай Хрыста. І вось нашыя сьвятары-патрыёты, верныя навуцы Хрыста, ужо ад даўжэйшага часу пачалі ачышчаць нашыя Сьвятасьці, перадусім нашую Царкву, ад гэтых гандляроў. Нажаль, змаганьне гэтае было няроўнае. Ахвяраю ворагаў паў наш вялікі Мітрапаліт-мучанік Мэльхісэдэк. Ужо тут на эміграцыі гэткія-ж гандляры ледзь ня зьнішчылі новае праявы незалежнасьці й чысьціні нашага духа — сьв. Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ў 1946 годзе.

Але нашая Апякунка сьв. Эўфрасіньня заступілася за нас перад Богам. Знайшліся сярод нас запраўдныя сьвятары й гарачыя патрыёты, якія на Саборы ў Канстанцы 4-5 чырвеня 1948 году выратавалі гонар нашае Сьвятыні, вярнулі нам нашае найвышэйшае духовае багацьце — сьвятую БАПЦаркву, якую тут-жа ўзяў пад сваю архіпастырскую апеку Архіяпіскап Сяргей. Ці-ж гэта быў прыпадак, што гэты вялікі акт здарыўся якраз у Дзень сьв. Эўфрасіньні? Не, гэта была Ейная відавочная дапамога нам.

Ужо мінула пятнаццаць гадоў ад гэнага зваротнага мамэнту ў нашым змаганьні за свае Сьвятасьці, пятнаццаць цяжкіх, цярністых гадоў. Ды ворагі ня супакоіліся. Яны яшчэ й сяньня ня хочуць зразумець, што нашае духовае жыцьцё належыць нам, нашым пастырам.

Ды дарма. Сілы нашага духа, нашага пераможнага паходу ўжо ніхто ані зламаць, ані паўстрымаць не патрапіць.

Хай памалу, але расьце й дужэе плод Канстанцы. Мы маем Сьв. Сабор Япіскапаў БАПЦарквы ды ейныя прыходы блізу ўсюды ў вольным сьвеце. У нашых царквах моляцца нашыя пастыры разам із сваімі вернікамі й да Жыровіцкае Божае Маці, і да сьв. Эўфрасіньні, і да ўсіх сьвятых Зямлі Беларускай, каб яны заступіліся за нас і ўвесь наш народ перад пасадам Госпада. І Ён дапамагае нам, бароніць і благаслаўляе нас. І набліжаецца дзень нашае перамогі-славы.

# У ВАБАРОНЕ МОВЫ Й КУЛЬТУРЫ

Апошнім часам зьяўляецца ў Савецкай Беларусі цімала літаратурных твораў, у якіх закранаецца актуальная праблема пабудовы камунізму й месца ў ім беларускай нацыянальнай культуры й беларускай мовы. З гэтага гледзішча заслугоўвае на ўвагу сьвежы верш Максіма Танка „Мне здаецца", надрукаваны ў 10-ым нумары часапісу „Полымя" за 1964 год. Падаём Танкаў верш „Мне здаецца" поўнасьцяй:

*Хто сяньня аб камунізьме —*
*Аб залатым веку —*
*Ня марыць:*
*Калі па зямных абшарах*
*Паплывуць вінныя*
*І малочныя рэкі,*
*Калі будзе забаваю*
*Хлеб расьціць,*
*Плавіць сталь,*
*Вугаль здабываць,*
*Калі кажны будзе*
*Па здольнасьці працаваць*
*І атрымліваць*
*Па патрэбнасьці!*

*Праўда,*
*Некаторыя нат ужо*
*Стараюцца запасьціся*
*Вялізарнейшай лыжкай*
*Ды місай.*

*Некаторыя нат ужо*
*Стараюцца пазбыцца*
*„Перажыткаў" —*
*Сваёй культуры і мовы,*
*Быццам*
*Ля варот камунізма*
*Кантралёры*
*Будуць экзаменаваць*
*Толькі на эспэранта,*
*І іх першых прапусьцяць*
*У сонечны горад.*
*О Simplicitás sancta!*

*Я ўпэўнены, што ля ўваходу*
*У камунізм спытаюць:*
*— З чым прыходзіце вы,*
*Які знаеце танец?*

*Танец жывата?*
*Вы не Індус, здаецца?*
*А іграеце? На там-таме,*
*А не на жалейцы?*
*Ну, а страву якую*
*Прынесьлі вы з дому?*
*Шашлык — гэта ня ваш,*
*Усім добра вядома.*

*А якія вы маеце ўборы,*
*Узоры тканінаў?*
*Не, самбрэра і кенты*
*Не з вашай краіны.*

*А сьпяваеце песьні*
*На мове якой?*
*Кажаце, што на многіх,*
*Толькі не на сваёй?...*

*І, мне здаецца,*
*Адправяць ад парога*
*Не аднаго давучыцца*
*Дзівака такога.*

*Давучыцца*
*ў Пушкіна, Міцкевіча,*
*Шаўчэнкі і Багушэвіча.*
*У многіх іншых,*
*У тым ліку*
*І ў майго друга*
*Расула Гамзатава,*
*Каб знаці, якімі ўсе мы*
*Скарбамі багатыя*
*І што нельга пра іх*
*Забываць.*

Шмат якія паэты й пісьменьнікі, што паўтараюць партыйную дырэктыву аб пабудове камунізму ўжо ў 1980 годзе, робяць гэта зь няскрыванай гіроніяй. Гэтая гіронія вычуваецца й у Танкавым вершы „Мне здаецца", калі ён гаворыць аб „залатым веку" камунізму ды аб „вінных і малочных рэках", што „паплывуць па зямных абшарах".

Але цікавая ў гэтым вершы рэакцыя Максіма Танка на камуністычную тэорыю аб паступовым сьціраньні пры камунізьме граняў нацыяў і будучым адміраньні нацыянальных культураў і нацыянальных моваў, як перажыткаў. У гэтым сэньсе Танкаў верш зусім нядвузначны. Крытык Рыгор Бярозкін у газеце „Літаратура і Мастацтва" за 10 лістапада 1964 году правільна заўважыў, што ў гэтым вершы „паэта глыбока нацыянальны... і настойліва сьцьвярджае каштоўнасьць выпрацаваных народамі нацыянальных культур". У гэтым вершы Максім Танк наважана выступае ў вабароне беларускай нацыянальнай культуры й беларускай мовы. Ён цьвердзіць, што яны не адамруць і пры камунізьме, а слова „перажыткі" ў дачыненьні да „сваёй культуры й мовы" ня прыпадкова бярэ ў чужаслоў.

У гэткім разуменьні долі беларускай культуры й мовы ў будучыні Танк не адзінокі. Яшчэ ў газэце „Чырвоная Зьмена" за 13 студзеня 1963 году зьявіўся быў верш Рыгора Барадуліна „Мая мова". У гэтым вершы Барадулін, між іншым, пісаў:

*Калі мова мая*
*уліецца ў вагульны людзкі акіян—*
*пацячэ ў ім, стрыманая,*
*маленькім Гальфстрымам,*
*і сэрца маё будзе грэць*
*кажным ашчадным словам.*
*Бо, як жыта, спрадвечная*
*беларуская мова.*

# ШЧЫРАСЬЦЬ І ДЗЕЙНАСЬЦЬ

Часта ў нас бывае, што калі хто хоча штось сказаць або зрабіць, дык ня гэтулькі глядзіць на праўду або на дабро, на карысьць справе нацыянальнай, колькі на тое, як адгукнуцца іншыя; калі думае, што адгукнуцца блага, дык узьдзержыцца ад таго, што маніўся ўчыніць; узьдзержыцца, не зважаючы на тое, што была-б карысьць дзеля справы. Тыя, што так робяць, гэта дыпляматы й палітыкі самых сябе. Такім сваім паступкам яны робяць вялікую шкоду справе ідэйнай, нацыянальнай.

Няшчырасьць пачынаецца ад найменшага й канчаецца на найбольшым. Калі ў якой нашай групе хтосьць каго ўкрыўдзіў, дык звычайна ніхто не заступіцца за ўкрыўджанага, калі будзе спадзявацца, што абароны ягонай бальшыня сяброў не ўпадабае, уважаючы ці не яе за справядлівую. Не заступаюцца, калі крыўдзяць свае, але не заступаюцца часта й тады, калі крыўдзяць чужыя. Такая ўзьдзержлівасьць ёсьць эгаізмам, нязычэньнем дарма зрабіць штосьць дзеля свайго сябры, мець за гэта якую няпрыемнасьць, прыкрасьць, а ў дачыненьнях з чужынкамі ёсьць нястачаю нацыянальнай салідарнасьці.

Не заступаюцца за дабро, калі яго крыўднікі перамагаюць; не памагаюць справе добрай і калі яна бярэ верх.

У другім выпадку ўважаюць сваю помач за непатрэбную. Але мыляюцца. Бо, ня прылучаючыся да добрага яўна, ствараюць выгляд, што за добрам мяншыня, а ёсьць людзі, каторыя важаць рэчы паводля бальшыні за іх: бальшыня за чым, значыць яно праўдзівае, добрае; мяншыня — непраўдзівае, благое. Такім парадкам гэтым уводзяць у вабмылу нясьведамых справы, і гэтыя, прылучаючыся запраўды да мяншыні, прыманай імі за бальшыню, абарачаюць яе ў бальшыню запраўдную.

Гэткім парадкам, значыцца з прычыны ўзьдзержлівасьці сьведамых дабра, пашыральнікі яго могуць апынуцца адзінотнымі, і шыранае імі дабро ня ўжыцьцёвіцца. Нясумленным ёсьць палітык, каторы ўзьдзержуецца ад якое-колечы патрэбнае справы, дзеля таго што яна непапулярная, што яе не падабаюць. Нясумленны й няпоўны такі палітык.

Нястача шчырасьці ў ідэйных дачыненьнях ёсьць прычынаю таго, што ў нашых газэтах надта мала грамадзкай крытыкі. Крытыка бывае адно тады, калі пачынаецца звада; але тады крытыка часта абарачаецца ў лаянку. Шчырасьць у звадзе ня лучыцца з крытыкаю, але із зычэньням ліха свайму праціўніку. Можна ўважаць, што нядаўнае табарнае разьбіцьцё на „крывічоў" і „зарубежнікаў" прычыніла нястача дагэнуль грамадзкай крытыкі. Калі адны адных ня крытыкуюць, дык, першае, кажны застаецца пры сваіх паглядах, якбы яны ня былі абмыльныя; а, другое, без прынароднай крытыкі незаўсёды льга пазнаць, хто запраўды прыяцель свайго народу, а хто яму ідэйна чужы або й няпрыязьлівы, варожы. Нястача-ж крытыкі прычыняецца цяпер да таго, што некаторыя падзьдзержваюць разьбіцьцё дзеля сваіх асабістых карысьцяў.

Часта тыя самыя, ня зычачы задзіночаньня, з тактычных прычынаў найболей крычаць празь яго патрэбу.

Шчырасьць у ідэйных справах цесна зьвязана з грамадзянскай адвагаю, як няшчырасьць у тых-жа справах ёсьць нястачаю грамадзянскай адвагі.

На шчырасьць, як і няшчырасьць у ідэйных дачыненьнях, як і наагул у ўсіх справах, маем дасканальныя прыклады ў Біблії. Апосталы й прарокі шчырыя, але Пілат няшчыры; ён засудзіў на сьмерць Хрыста, дарма што быў пераканаўшыся ў нявіннасьці Хрыстовай, засудзіў, бо баяўся, што фарысэі ўдадуць яго цэсару.

Шчырасьць у справах грамадзкіх ёсьць перадумоваю грамадзкіх дачыненьняў, хоць-бы толькі на словах, такая-ж няшчырасьць зьвязаная зь бязьдзейнасьцяй.

Даведаньне й дазнаньне вучаць нас, што калі дзейны мыляецца, дык усё-такі ад яго можна балей спадзявацца, чымся ад неабмыльнага бязьдзейніка. Дзейны, калі ён абмыльна пераканаўшыся ў карыснасьці таго, што робе, пазнаўшы сваю абмылу, папраўіцца, узыйдзе на дарогу праўдзівую й застанецца дзейным, а бязьдзейны неабмыльны застанецца бязьдзейным, ня робячы ні ліха, ні дабра. Такіх добрых адно зычлівых у нас шмат. Калі-б у нас было сваё гаспадарства, дык яны былі-б карысныя, як ураднікі або дзяржаўцы-адміністратары. У руху-ж, без гаспадарства зь іх карысьці няма. Ведама, што калі хто ладня матарыяльна памагае нацыянальнай справе, дык памога ягоная тое самае, што і й дзейнасьць. Кажны так або сяк мае памагаць справе свайго народу, і няма такіх, што гэтага не маглі-б зрабіць.

Кажучы праз дзейнасьць, маем наўвеце дзейнасьць ідэйную. Калі-ж хто дзейны дзеля сваіх асабістых карысьцяў, імкненьняў, ды шкодных справе агульнай, нацыянальнай, дык ён — воўк, і да яго надабе ставіцца, як да ваўка.

Узглядам шчырасьці, грамадзянскае адвагі й дзейнасьці найлепшы прыклад маем у Евангелі. Дарма што Паўла перасьледваў хрысьціян, яго паклікаў Хрыстос за апостала свайго. За што паклікаў? Не за тое, што перасьледваў. За шчырасьць, за тое, што, перасьледуючы, быў пераканаўшыся, што робе паслугу Богу, Спадар Ісус Хрыстос яму дараваў перасьледваньні, але паклікаў за дзейнасьць. Бязьдзейных-жа Бог ня любе, а людзі не паважаюць.

**Я. Станкевіч**

# Злачыннасьць сярод моладзі у БССР

Паміж савецкай тэорыяй і практыкай існуюць вялікія разыходжаньні. Ужо сталася звычаем савецкай прапаганды цьвердзіць, што ў гэтак званых капіталістычных краінах расьце дэмаралізацыя і злачыннасьць, асабліва — сярод моладзі, тады, як у Савецкім Саюзе, быццам, неўзабаве гэтая праблема наагул ня будзе існаваць. Ці яно сапраўды так?

Перад намі — цікава напісаны рэпартаж аб жыцьці гомельскай моладзі, надрукаваны ў газэце „Знамя юности". Рэпартаж мае рамантычны загаловак — „Як перамагчы графа Монтэ-Крысто?", але зьмест ягоны далёкі ад рамантыкі. У ім падаюцца факты, якія паказваюць на масавы рост розных злачынстваў сярод моладзі Гомеля. Там гаворыцца і аб бандах моладзі, як, напрыклад, „шайкі брытагаловых", „пышныя сямёркі" і аб тым, як 12-гадовыя выходзяць ноччу на рабунак, і аб двух братох — 5-ці і 6-ці клясьніках, якія за два месяцы ўкралі 12 тысяч рублёў ды зрабілі шмат рабунковых нападаў, і аб „тоўстых папках із справамі аб злачынствах зробленых няпоўналетнімі", і аб безлічы іншых падобных выпадках.

Як на абласны горад Гомель — гэта шмат. Аднак, як ведама, з гэтымі самымі праблемамі сустракаемся і ў іншых гарадох, як Беларусі, так і ўсяго Савецкага Саюзу. Справа пашырэньня сярод моладзі меншых ці большых злачынстваў — гэта можна сказаць, адна з найбольш важных справаў ,якая турбуе педагогаў, міліцыю, камсамол і партыю.

На наш пагляд, прычыны штораз большай злачыннасьці сярод моладзі далёка разыходзяцца з тымі прычынамі, якія падаюцца афіцыйна — савецкімі дзейнікамі. У цытаванай ужо намі газэце „Знамя юности" чытаем, між іншым, такое: „Як-жа гэта—для дзяцей створаныя ўсе ўмовы, прыходзьце, рабеце караблі, самалёты, вучэцеся сьпяваць, маляваць, а яны — гуляюць у карты, б'юцца на драўляных шпагі, таямніча і нядобра жмурацца ў падваротнях?"

Паўстае пытаньне: чаму падлеткі, ня тыя із спэцыяльнымі злачыннымі нахіламі — такіх шмат і яны бываюць усюды — а нармальныя маладыя людзі ўцякаюць у падваротні, ня ідуць у клюбы, у арганізацыі моладзі? На гэта можа быць толькі адзін адказ: у маладзёжных арганізацыях і клюбах пануе нудота. Яны не заспакойваюць зацікаўленьняў маладых людзей. Там пануе тыповы падсавецкі трафарэт, ад якога вее старой сталіншчынай. Ці могуць зацікавіць моладзь нудныя даклады з загадзя заплянаванай дыскусіяй над імі, ці могуць цікавіць яе газэты, запоўненыя прапагандовым сьмецьцем?

Ня дзіва таму, што пры такіх умовах моладзь стварае сабе ўласную „рамантыку", далёкую ад афіцыйнай, няма дзіва, што частка гэтай моладзі з нуды, а яшчэ часьцей з падсьведамага бунтарства — трапляе на няправільныя шляхі. Мы ўпэўненыя ў тым, што калі-б у клюбах і арганізацыях моладзі была магчымасьць для гэтай моладзі свабоднага самакіраўніцтва, калі-б яна мела права вольна пастанаўляць аб сваім жыцьці й працы, хутка зьменшылася-б і колькасьць моладзі, якая пайшла на бездарожжа.

Але ёсьць яшчэ й іншы бок, зьвязаны з пытаньнем моладзі. Вельмі часта пад маскай змаганьня з асацыяльнымі элемэнтамі, савецкі рэжым вядзе змаганьне з апазыцыйнымі настроямі сярод моладзі. Ці можна назваць асацыяльнымі, злачыннымі элемэнтамі, напрыклад, тых маладых людзей, якія, жадаючы мець сапраўдны вобраз аб жыцьці Захаду, шукаюць кантактаў з заходнімі турыстымі? З гледзішча савецкіх законаў злачынствам зьяўляецца рэгістраваць на магнітафон заходнюю танцавальную музыку і пасьля прадукаваць грамафонныя кружэлкі.

Хто-ж, фактычна, вінаваты ў такіх выпадках: тыя, што выдаюць хвальшывыя забароны й законы, ці тыя, што бароняць сваю свабоду выбару такой музыкі, такой літаратуры, якія ім падабаюцца?

Савецкі режым вядзе ўжо ад даўжэйшага часу змаганьне з пашыраным сярод моладзі зьявішчам гэтак званых радыя-хуліганаў. Абстрагуючы ад зьместу некаторых дзікіх радыяперадачаў, трэба сказаць, што гэта зьяўляецца своеасаблівым пратэстам супраць савецкай радыяфанічнай прапаганды, супраць забаронаў і абмежаваньняў.

Падобныя прыклады гавораць аб тым, што сярод савецкай моладзі нарастае дух бунтарства і пратэсту супраць вялікай часткі савецкіх парадкаў. Адчуваючы паражнечу падсавецкага жыцьця, частка моладзі зыходзіць на няправільныя шляхі. Але хто тут больш вінаваты? Самая моладзь, ці тыя, што накладаюць путы на ейную свабоду?

**М. С.**

А ў вершы, надрукаваным без загалоўку ў сьнежанскім нумары часапісу „Полымя" за 1963 год, той-жа Барадулін утаесамлівае навет Беларусь з роднай мовай і беларускай літаратурай, заяўляючы, што „Беларусь — мая мова і песьня".

Іншы паэта Аляксей Русецкі надрукаваў у № № 6 і 7 часапісу „Полымя" за 1964 год паэму „Яго Вялікасьць", у якой знаходзім гэткія радкі:

*Ёсьць мёртвае мора,*
*ёсьць мёртвая мова,*
*застылыя хварбы,*
*забытыя скарбы;*
*шуміць жывая,*
*ласкава, сурова,*
*як мора, шырока шуміць мая мова.*
*Шаную яе, нібы родную матку,*
*якая хіліла да мора жывога,*
*што ўськінула крыльле*
*на ветры ў пачатку*
*сапраўднай гісторыі роду*
*людзкога.*

*О моўныя моры — жывыя народы,*
*нікому ня ўдасца суняць ваша*
*крыльле!*

Яшчэ іншы паэта, Аляксей Зарыцкі прысьвяціў роднай мове свой верш „Скарбы", надрукаваны ў нумары 9-ым часапісу „Беларусь" за 1964 год. У гэтым вершы апотэазаваньне роднае мовы, гэтай, паводля паэтавых словаў, „уладаркі нявызнаных скарбаў", пасунатае да найвышэйшых граняў. Яшчэ іншы паэта, Міхась Кушняроў у вершы „Матчына мова", надрукаваным у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 24 лістапада 1964 году, горда заяўляе:

*Вечна барам гаманіць сасновым,*
*Вечна калосьсем шаптацца*
*жытнёвым,*
*Век будзе жыць мая родная мова,*
*Матчына мова!*

І наапошку, у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 15 сьнежня 1964 году знаходзім прыгожы верш Пімена Панчанкі „Родная мова", які таксама передрукоўваем поўнасьцяй:

*Кажуць, мова мая аджывае*
*Век свой ціхі: ёй зьнікнуць пара.*
*Для мяне-ж яна вечна жывая,*
*Як раса, як сьляза, як зара.*

*Гэта ластавак шчабятаньне,*
*Звон сьвітальны палескіх крыніц,*
*Сінь чабору, і барвы зарніц,*
*І бусьлінае клякатаньне.*

*Калі-ж хто загадае: „Ня трэба!" —*
*Адрачэцца ад мовы народ,*
*Папрашу я і сонца, і неба:*
*Мне ня трэба ні славы, ні хлеба,*
*Асудзіце на безьліч нягод —*

*Толькі месяцаў назвы пакіньце,*
*Назвы родныя роднай зямлі,*
*Пра якія з маленства ў блакіце*
*Бор шуміць і пяюць жураўлі:*

*Студзень — з казкамі сьнежных*
*аблокаў,*
*Люты — шчодры на сіні мароз,*
*Сакавік — з сакатаньнем і сокам*
*Непаўторных вясновых бяроз,*
*Красавік — час маланак і ліўняў,*
*Травень — зь першым каханьнем,*
*сяўбой,*
*Чэрвень — зь ягаднаю зарой,*
*Ліпень — зь мёдам,*
*З пшаніцаю — жнівень,*

*Сьпелы яблычны верасень,*
*Сьветлы кастрычнік,*
*У празрыстасьці чыстай,*
*крынічнай,*
*Лістапад — залаты лістапад,*
*Сьнежань — першы густы*
*сьнегапад...*
*Ці плачу я, ці пяю?*
*Ці размаўляю з матуляю?*
*Песьню сваю, мову сваю*
*Я да грудзей прытульваю.*

Яшчэ ў канцы мінулага стагодзьдзя першы Францішак Багушэвіч кінуў славуты лёзунг: „Беларусы, не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!" Пазьней Янка Купала, пераняўшы духовае правадніцтва народу, у шмат якіх сваіх вершах вызначаў ролю роднае мовы й роднае песьні, як найважнейшых фактараў нацыянальнага існаваньня народу. Гэткую-ж ролю роднай мовы вызначалі ў сваіх вершах і іншыя паэты, як Цётка, Алесь Гарун, Андрэй Зязюля. Сяньня, у часе ўзмоцненага наступу супраць нацыянальных элемэнтаў беларускай культуры й беларускай мовы, гэтае пачэснае заданьне захаваньня роднае мовы й разьвіцьця ў гэтай мове мастацкае літаратуры ўзялі на сябе сучасныя беларускія паэты й пісьменьнікі. У гэтым вялікая іхная гістарычная заслуга!

Выходзіць, аднак вельмі-ж дзіўна: справу абароны роднае мовы, пастаўленую Багушэвічам у ярме царскага рэжыму, беларускія савецкія пісьменьнікі мусяць працягваць далей — працягваць у сваёй-жа собскай, быццам-бы суверэннай дзяржаве. Што за трагічны парадокс! Парадокс, які раскрывае ўсю хвальшывасьць гэтае беларускае савецкае сувэрэннасьці, пры якой даводзіцца бараніць ад сьмерці сваё найдаражэйшае — родную мову.

**Ст. К.**

# ДЗІЎНАЯ ГІСТОРЫЯ

Апошнім часам усе газэты, што выходзяць у БССР, прысьвечаныя былі бадай выключна аднэй тэме — дэкадзе расейскага мастацтва ў Беларусі. І пастаноўкі маскоўскіх майстроў музыкі й тэатру, і паасобныя артыстыя, былі сустрэтыя друкам БССР зь вялікім захапленьнем. Захапленьне гэтае было часам гэткім „усхваляваным", што пакідала навет сумлеў у шчырасьці тых, хто „хваляваўся" й прымушаў думаць аб рэжысуры „згары", аб гэтак званай „партыйнай устаноўцы".

У сувязі з гэтаю дэкадаю расейскага мастацтва ў БССР, не ад рэчы будзе прыгадаць тут адну дзіўную на наш пагляд гісторыю, зьвязаную із сваеасаблівою „дэкадаю" опэрнага мастацтва БСРС.

У мінулым годзе, менавіта, у сувязі з гэтак званым у Савецкім Саюзе „Сьвятам Вызваленьня Беларусі", Менскі Вялікі Дзяржаўны Тэатр Опэры й Балету быў запрошаны ў Маскву, у найбольшы ў СССР тэатр — Крамлёўскі. Тут беларуская нацыянальная рэспубліка мелася паказаць свае новыя дасягненьні.

Пасьля выступленьняў, і цэнтральны, і рэспубліканскі друк не паскупіліся на артыкулы, што ўзьнесьлі на ўзвышшы і сам тэатр, і паасобных удзельнікаў выступленьня. А ўрад СССР надаў годнасьць народных артыстых СССР (якою, да рэчы, працаўнікі музычнага мастацтва наагул вельмі рэдка ўзнагароджваюцца) — салістам Беларускага Тэатру Опэры й Балету Т. Ніжнікавай і Н. Ткачэнка. Адначасна, мясцовы рэспубліканскі ўрад надаў шмат якім удзельнікам пачэсныя званьні народных артыстых БССР.

Здавалася-б, трэба адно цешыцца, што Беларусы маюць такіх выдатных артыстых і такія высокамастацкія пастаноўкі. Цешыўся з гэтага сьпярша тут, на Захадзе і шмат хто з нас. Аднак, таго-сяго ўжо й тады непакоіла думка: якім-жа гэта рэпэртуарам пасягнуў Менскі Тэатр Опэры й Балету гэткага вялікага прызнаньня? Хто зь беларускіх выканаўцаў атрымаў вышэйшае імя народных артыстых?

Газэты пісалі, што вялікаю ўдачаю тэатру былі галоўна дзьве пастаноўкі: опэра Джузэпэ Вэрды „Отэлло" і твор расейскага кампазытара Танеева, што вельмі даўно нідзе ня ставіўся — „Арэстэя".

Што-ж, клясыка — рэч нядрэнная, бо й на чым-жа, як не на клясыцы, можна навучыцца запраўднага мастацтва? Але ёсьць тутака адно „але". А гэта — чаму беларускі тэатр паехаў у Маскву з паказам якраз чужое, у вялікай часткі расейскае, клясікі, а ня зь нечым сваім, самабытна-беларускім, нацыянальным? Чаму ні адзін з запраўды беларускіх выканаўцаў ня быў узнагароджаны тытулам народнага артыста СССР, — найвышэйшаю ўзнагародаю для артыста ў Саветах, — а быў гэты тытул нададзены дзьвюм сьпявачкам, народжанай у Куйбышаве Ніжнікавай, што бадай ня выступае ў беларускіх опэрах, і Ткачэнка, родам Украінцы, што ўсяго два-тры гады працуе ў беларускім тэатры й нічым асаблівым сябе тут не праявіла. Да таго-ж Ткачэнка, славутая быццам „беларуская" сьпявачка, выступала ў Маскве ані не зь беларускімі рэчамі, а з арыяй Вэрды з „Навуходаносара", расейскай песьняй „Волга-рэчанька" і песьняй расейскага кампазытара Новікава „Нам трэба мір".

Дзе-хто з чытачоў можа скажа, пашто ўзьнімаць на часе ўсю гэтую гісторыю? Ды справа ў тым, што ў Савецкім Саюзе патрэбны час — і то не малы — каб выявіць праўду.

На тое, што гэта так, ёсьць шмат довадаў, бо сяньня ўжо, як кажуць, шыла пачынае вылазіць зь мяшка.

У часапісе „Советская музыка" у нумары 8-м за 1964 год прыкладам, узялі ў гэтай справе голас не адно партыйныя чыноўнікі, але й спэцыялістыя. Як пішуць у часапісе савецкія крытыкі Сабалеўская й Сьцяпанаў, Менскі Опэрны Тэатр нічым асаблівым у Маскве сябе не паказаў. Опэра Вэрды „пайшла па лініі найбольш банальнага прачытаньня трагэдыі", і ніхто „верна й глыбака музыкі Вэрды не раскрыў". Тое самое пішуць Сабалеўская й Сьцяпанаў і пра пастаноўку Танееўскае „Арэстэі", дзе рэжысар „груба парушыў эстэтыку Эсхілаўскае драмы". Згодна пагляду крытыкаў, Менскі Опэрны Тэатр не паказаў таксама ў Крамлі ані „цеснага сяброўства", ані адзінства свайго калектыву.

Прыканцы 1964-га году, у 11-м нумары „Советской Музыки", гэтую войструю крытыку спрабавала крыху залагодзіць яшчэ адзін музычны крытык — Казанцава, але й яна, хоць і пісала, што маскоўскі паказ быў „вялікаю працаю і ўдачаю" Менскага Тэатру Опэры, была прымушаная згадзіцца з тым, што тэатр дапусьціў у сваіх пастаноўках у Маскве ці адну хібу.

Так, шкада, вялікая шкада, што беларуская опэра йдзе сяньня зусім ня тымі шляхамі, якімі яна магла-б і павінна была-б ісьці. А яшчэ больш шкада тых беларускіх мастакоў і творцаў, што хацелі-б тварыць нешта сваё, прыгожае, беларускае, але змушаныя абставінамі падсавецкага жыцьця брацца за працу, якою яны нічога запраўды глыбокага й вартаснага стварыць ня могуць.

**М. Куліковіч**

# ВЕСТКІ З КАНАДЫ

524 St. Clarence Avenue
TORONTO 4, Ont.
У справах зьвязаных з мата-р' яламі да друку, падпіскай або рэклямай, зьвяртацца;
Mr. A. Markievich,
127 Dovercourt Rd.
Toronto 3, Ont. Tel. LEnox 1-8009
або: Mr. K. Akula,
57 Riverdale Avenue
Toronto 6, Ont.
Tel. HOward 1-3992
Advertising rate — $ 1.25 per column inch

## НАВАГОДНІЯ ПРЫНЯЦЬЦІ У ДАСТОЙНІКАЎ АНТАРЫЁ

### У КАРДЫНАЛА МЭК ГІГЭНА



**Пры Кардыналу Мэк Гігэну зьлева направа: пралат О'Мара, біскуп Аллэн, біскуп Марроко і пралат Брэннан. Беларускі прадстаўнік трэйці справа.**

Ужо ўвайшло ў традыцыю, што Кардынал Мэк Гігэн, арцыбіскуп Таронцкі ладзіць штогод у сваёй рэзыдэнцыі на Новы Год вялікія прыняцьці для запрошаных гасьцей. У гэтым годзе мелі гонар быць запрошанымі на прыняцьце й прадстаўнікі этнічных групаў гораду Таронта, сярод якіх быў упяршыню й прадстаўнік ад Беларусаў сп. А. Маркевіч. На прыняцьці было зроблена некалькі супольных фотаздымкаў з Кардыналам. Беларускі прадстаўнік уручыў Кардыналу матарыялы пра Беларусь і ЗБК, за што ён ветліва дзякаваў.

### У ЛЕЙТЭНАНТ-ГУБЭРНАТАРА



**В. даст. Лейтэнант-Губэрнатар Ёрл Роўв сярод прадстаўнікоў этнічных групаў Таронта. Беларускі прадстаўнік чацьверты зьлева.**

Прадстаўнік Каралевы на правінцыю Антарыё в. даст. Лейтэнант-Губэрнатар Ёрл Роўв прыняў у сваёй рэзыдэнцыі ў будынку Антарыйскага парляманту дэлегацыю прадстаўнікоў этнічных групаў гораду Таронта. Запрошаныя госьці мелі нагоду гутарыць з гасьцядаўцам ды частававацца ўсім магчымым, а таксама й супольна фатаграфавацца. Беларускі прадстаўнік сп. А. Маркевіч меў нагоду ўручыць Яго Вялікасьці інфармацыйныя матарыялы ў ангельскай мове пра Беларусь і Беларусаў.

## ЯЛІНКА У АШАВЕ



**Дзед Мароз сярод дзетак Ашавы.**

Беларуская калёнія ў Ашаве ўжо каторы год ладзіць падрад сьвята ялінкі. Сёлета гэтае сьвята выпала на сыботу 9 студзеня. Яно было праведзенае ў нанятай залі Понтыяк Інн, дзе зыйшліся дзеткі й дарослыя, каб весела правесьці час. Пры ўпрыгожанай ялінцы дзеці зь нецярпеньнем чакалі, калі-ж зьявіцца Дзед Мароз. Ён нарэшце зьявіўся зь вялікім мяхом падаркаў.

Пасьля гэтага пачалася мастацкая частка. Ірка Харэвіч. і Тарэса Мышкоўская прыгожа прапялі дзьве беларускія й адну ангельскую песьні, якіх іх навучыла сп-ня Аня Харэвіч, а Ірка Мышкоўская адважна прадэклямавала верш „Зіма". Тоня Пунтус умела йграў, не зважаючы на свой дзяціны век, на вялікім акардыёне, добра выканаўшы чатыры музычныя нумары. Усьлед за ім выступіў Коля Рыбенка таксама з акардыёнам і прайграў „Хвалі Дунаю".

Пасьля мастацкай часткі Дзед Мароз (Г. Харэвіч) раздаў дзеткам падаркі. Тады пачаўся супольны пачастунак для дарослых пры багатых сталох і добрай чарцы. Можна было добра павесяліцца й патанцаваць пад музыку аркестры сп. Б. Лішчонка. Наагул вечар удаўся, а ўправа БСК (сп. сп. Г. Харэвіч, В. Харэвіч і А. Тарасэвіч), што яго арганізавала, добра справілася із сваім заданьнем. Беларускім жанчынам таксама належыцца падзяка за іхныя стараньні й дапамогу.

## ЯЛІНКА У ТАРОНЬЦЕ

Іншыя спраўляюць адну ці дзьве ялінкі, а мы — праваслаўныя Беларусы — ці ня тры. Першая — на месцы працы, другая — ў собскай хаце, а трэйцяя — пры царкве.

Ды малеча нашых парахвіяў і вучні беларускай школы ў Тароньце ўсяроўна з найбольшай нецярплівасьцю чакалі свае ялінкі, дый Дзеда Мароза, што, вядома-ж, і на Беларусь заяжджаўся. І жаданы дзень надыйшоў 10-га студзеня.

Айцец Міхаіл малітвай адчыніў сьвята дый вітаў малых і вялікіх з Калядамі. Коратка гаварыў і кіраўнік школы — сп. К. Акула, расказваючы, што школа дасягнула

да Мароза (ужо трэйці раз пра яго ў гэты дзень!) — Юрка Акула. Далей выступалі зь вершамі: „Роднае-любае" — Гэля Б., „Песьня пра ёлачку" — Рыта Ц., „Сьвецяць зорачкі" — Эдзік Барановіч, „Школьнік" — Тамаш Кулеш і Купалаў верш „Цару Неба й Зямлі" вельмі добра дэклямаваў Алесь Акула. Тамара Кулеш грала дзьве песьні на фартэпіяне й расказала пра хлопчыка, што захацеў пайсьці на рэчку зімою. Пра бычка й вожыка расказаў вершык Сьцяпан Алексяевіч.

Школьны хор выканаў дзьве песьні: „Ой рэчанька" й „Саўка ды Грышка". Дзьве ашаўскія дзяўчы-



**Дзед Мароз расказаў дзеткам у Тароньце, што на Беларусь заяжджаўся, навіны адтуль прывёз, ды заахвочваў, каб стараліся вучыцца ў мясцовай сыботняй беларускай школцы.**

дагэтуль, якія пляны на далейшае ды прасіў бацькоў, каторыя дзяцей трымаюць удома, каб прысылалі ў беларускую школу.

Нарэшце й Дзед Мароз, добра-ткі перамучаны ўжо, (дзе-ж гэта, столькі сьвету аб'ехаць трэба!) увайшоў на залю пад галоснае вітаньне дзяцей.

Тут малыя пачалі перад Дзедам хваліцца сваім умельствам.

Р. Цялеш і Гэля Б. расказалі ўсім пра дзеда Мароза, а сямігадовы Янка Мірон расказаў, што сталася із катом, які задумаў перабрысьці Дняпро. Пра „Агародніну" дэклямавала Крыстына Ц. а пра Дзенкі — Ірына Харэвіч і Тарэса Мышкоўская прыгожа засьпявалі „Новая радасьць будзе". Меншая Мышкоўская дзяўчынка Ірына добра расказала верш пра зіму. Школьны хор закончыў паказ калядкай „Неба й зямля".

Трэба асобна адзначыць, што сп. сп. Ганько й Лішчонак улажылі многа працы, каб навучыць дзетак сьпяваць. І рэзультаты гэтай працы добра відаць былі ўсім.

## КАЛЯДОЎШЧЫКІ

Летась і пазалетась нашы таронцкія калядоўшчыкі звычайна не паказваліся па-за горадам. Папершае — горад вялікі, папробуй, абыйдзі ўсіх. Падругое, — паколькі прыгадваецца, — пагода ніякаватая была. Зусім накш было сёлета. За выключэньнем аднаго вечару, пагода была вельмі добрая, шафёр руплівы й працавіты. Абвазіў ён ня толькі па Тароньце, але ў Ашаву, Гвэлф і Лёндан заглянулі. Калядавалі адзін вечар па новаму календару й чатыры дні па старому.

Людзі, асабліва тыя, што рэдка калі маюць жывы кантакт із нашым асяродзьдзем, вельмі радасна прыймалі й добра дарылі нашых калядоўшчыкаў. І вястуны нараджэньня Хрыстовага шкадавалі, адно, што нельга ў кажнай хаце даўжэй затрымацца, пагутарыць, далей і далей трэба сьпяшыць, каб да кажнага суродзіча песьню завезьці.

Накалядавалі звыш 400 дал. Грошы гэтыя пойдуць на сплату нашага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру.

## ПАТРЭБА РЭФОРМЫ КАНАДЫЙСКАГА ПАРЛЯМАНТУ

Другая Сэсія Канадыйскага 26-га Парляманту паставіла рэкордны пэрыяд паседжаньняў. І ўсё яшчэ астаюцца неразьвязаныя такія пытаньні, як распадзел выбарных акругаў дзеля лепшай рэпрэзэнтацыі, пэнсыйны плян, заканадаўства аб палепшаньні кіраваньня чыгункамі, а таксама пытаньне выдаткаваньня дзяржаваю каля пяцёх міліярдаў даляраў, якія зусім не маглі быць абмяркоўваныя. Сэнат таксама ня меў магчымасьці належна працаваць.

Праўда. існуе Камісія, што падрыхтоўвае праекты рэформаў з мэтаю скарачэньня часу працы Палаты Дэпутатаў, але гэта яшчэ ня ёсьць выхад з палажэньня. І гэта не зважаючы на тое, што Канада ў хуткім часе будзе адзначаць 100-ыя ўгодкі сваёй дзяржаўнасьці.

Сучасны парлямант усё яшчэ кіруецца ўстарэлымі правіламі з часоў Канфэдэрацыі 1867 году. Прыкладам, у 1868 годзе выдаткі дзяржавы выносілі 14 міліёнаў даляраў, а законы асталіся тыя самыя й сяньня, калі ўжо выдаткі даходзяць да 7-ёх міліярдаў даляраў. Гэткім парадкам, выдаткі ўзрасьлі ў 500 разоў і ў шырокім маштабе разгарнулася дзейнасьць у галіне заканадаўства.

Зацягваньне сэсіяў Парляманту ёсьць прычынай, што міністры, адказныя за выдаткаваньне вялікіх сумаў грошай, маюць вельмі мала часу дзеля выконваньня сваіх беспасярэдніх абавязкаў. Яны павінны траціць шмат часу, адказваючы на пытаньні на сэсіях Парляманту. Апрача гэтага, яны мусяць сядзець цэлы дзень у сваіх габінэтах, чакаючы ў любы мамэнт выкліку для галасаваньня, для выручкі ўраду, які ня мае абсалютнай балышыні.

Інтэнцыяй Бацькоў Канфэдэрацыі было, каб Парлямант складаўся зь людзей, не бяручы на ўвагу міністраў, якія-б займаліся сваёй звычайнай працай на працягу большай часткі году ды ведалі запраўдныя жаданьні народу й належна яго рэпрэзэнтавалі. У сучасны-ж мамэнт дэпутаты поўнясьцяй зьвязаныя з працамі Парляманту. Дык калі ўлічыць тыя гадзіны, якія дэпутат мусіць працаваць у справах, зьвязаных з выбарнай акругай або ў розных парляманцкіх камісіях, ды час працы на сэсіях на працягу 5-ёх дзён у тыдзень, і ў дадатак тры гадзіны начныя, дык 40-кагадзінны працоўны тыдзень для дэпутата можа быць адно мрояй.

Таму найвышэйшы ўжо час для рэформаў дзейнасьці Парляманту. Але хто перабярэ ініцыятыву — гэта пытаньне бліжэйшай будучыні.

**Норман Кэмпбэл —**
(„Канадыйская Сцэна")

# ЗЛАЧЫНЦЫ АБВІНАВАЧВАЮЦЬ

I

Гісторыя ведае шмат выпадкаў, калі злачынца выступаў у ролі абвінаваўцы свае ахвяры. Перадумовай было тое, што злачынца меў сілу ці ўладу, каб абвінаваціць і зьліквідаваць сваю ахвяру, каб людзі яго самога ня выкрылі.

Найбольш пасьлядоўна ў дзяржаўным і сусьветным маштабах карыстаюцца гэтым мэтадам вось ужо амаль паўстагодзьдзя бальшавікі. Масква сяньня зьяўляецца найбольшай паводля тэрыторыі каляніяльнай дзяржавай у сьвеце. Каб замыліць каму вочы, чырвоныя вялікадзяржаўнікі — каляніялістыя абвінавачваюць іншых у каляніялізьме, выступаюць у ролі піянэраў „вызваленьня народаў". Бязбожная, антынародная, каляніяльная маскоўска-бальшавіцкая ўлада парадкам партыйнага прымусу запрэгла ўсе свае наяўныя інтэлектуальныя сілы ў навуцы, культуры, дзяржаўным апараце й навет тэхніцы, каб весьці мэтанакіраваны абстрэл як дома, так і за межамі для пашырэньня крывадушнай ілжы аб сваім камуністычным ладзе, ды каб паралізаваць сілы супраціву ёй.

Імкнучыся да дэнацыяналізацыі нерасейскіх народаў у самым Савецкім Саюзе, Масква асабліва пільна сочыць праявы імкненьня да незалежнасьці гэтых народаў, каб іх ліквідаваць у зародку. У выніку гэтага яна зь вялікай ярасьцю накідваецца на прадстаўнікоў гэтых паняволеных сяньня ёй народаў, што апынуліся за межамі й адсюль вядуць змаганьне за вызваленьне.

Цівуны расейска-бальшавіцкага каляніяльнага ладу ў акупаванай Беларусі не ўтаймоўваюцца. Пільна сьцерагуць, каб калгасны баразной у мулкім хамуце пяліўся, нішчымніцай душаны, прыгонны беларускі селянін, сочаць, каб за жабрацкі паёк выціскаў зь сябе апошні пот на хвабрыцы работнік, каб за сьціплую ўзнагароду аддаваў усе свае разумовыя здольнасьці бязбожнаму й чалавеканенавісьнаму ладу інтэлігент. У той час, калі рукамі заграбаюць ад паняволенага народу плёны ягонай цяжкой працы, вуснамі намагаюцца пераканаць яго, што ніколі на цэлым доўгім працягу гісторыі ня жылося яму так добра, як цяпер.

Для тых нашых суродзічоў у вольным сьвеце, што раней на собскай скуры пазналі гэтак званыя дабрадзействы „чырвонага раю", гэта — не навіна. Беларускія выгнаньнікі звыкліся ўжо навет з тым, што бэсэсэраўскія завяртанцы рэгулярна шпурляюць на гэты бок залезнае заслоны прыгоршчамі „роднапартыйнага" бруду. Ня толькі дасьпеламу чалавеку, але й кажнаму юнаку вядома старая праўда, што ня можа з бруднай крыніцы чыстая вада пацячы. Можна на двое варажыць, ці бэсэсэраўскія цівуны цікавіліся-б сувязямі з „суайчыньнікамі" за межамі ў такой меры, як робяць цяпер, калі-б з гэтага боку самаахвярныя беларускія патрыёты не прадаўжалі вызвольнага змаганьня за вызваленьне Беларусі. Адылі гэта на баку.

Нядаўна вось з бальшавіцкай бэсэсэраўскай „роднапартыйнай" падваротні пачала расплывацца па шырокім сьвеце найбольш брудная й затохлая лужына. Адгаліненьне гэтай лужыны даплыло ўжо й да маёй хаты. Сёрбай, маўляў, — „суайчыньнік", гэту густую й цягучую жыжку. Навет грошы ня хочам. Не забывайся, што бэсэсэрыя пра цябе помніць.

Бальшавіцкі цымус гэтым разам зьявіўся ў хворме старанна й прыгожа выданай, із шматлікімі здымкамі на 286 бачынах кнігі „Саўдзельнікі ў злачынствах". Інстытут Гісторыі Акадэміі Навук БССР даў сваю шыльду, а апрацаваў і матар'ялы сабраў нехта „роднапартыйны" гадунец В. Раманоўскі.

Мясцамі кідаюцца ў вочы няўдалыя падробкі. Гэтак на бачыне 174-й з загаду „роднай партыі" на рукаве ў той час камандзера Наваградзкага эскадрону Барыса Рагулі ўзьлезла вялізарная (сказаў-бы хтосьці на гэтым баку акіяну — economy size) свастыка. Уважай, Барыс! Цяперака табе ад таты пападзецца!

Навуковая аб'ектыўнасьць Інстытуту Гісторыі Акадэміі Навук БССР прадугледзіць, відаць, што для дакладнасьці, дзе патрэбна, навет можна цытаты зь іншых крыніцаў хвальшаваць. Гэтак у „Бацькаўшчыне" № 38 за 1958 год змешчаны мой артыкул п. заг. „Думкі ня толькі аб паэзіі".

Там, між іншага, напісана: „Дык і глядзіш: купіў сабе ў бібліятэку некалькі беларускіх кніжак, а чытаць няма чаго." І далей: „Чытаеш вунь у прэсе, як і аб чым пішуць на бацькаўшчыне пад прыгонам партыі й думаеш сабе такое: няўжо-ж у нашых пісьменьнікаў (празаікаў маю на ўвеце) на эміграцыі няма ахвоты й сьмеласьці ўзяцца нарэшце за працу, каб хоць часткова адлюстраваць пэрыяд нашага вызвольнага змаганьня за незалежнасьць, час найбольш жахлівага паняволеньня Беларусі?" „Роднапартыйны" гадунец Раманоўскі, з благаславенства навуковага бэсэсэраўскага інстытуту, зрабіў з гэтай вытрымкі наступнае: „Так і глядзіш: купіў сабе ў бібліятэку некалькі беларускіх кніг, а чытаць няма чаго... Чытаеш вось у прэсе, як і аб чым пішуць на радзіме, і думаеш, і думаеш сабе тое — няўжо ў нашых пісьменьнікаў (маю на ўвазе празаікаў) у эміграцыі няма жаданьня ўзяцца хаця-б нарэшце за працу..."

Напамін пра прыгон партыі, пра вызвольнае змаганьне за незалежнасьць, пра жахлівае паняволеньне Беларусі „роднапартыйнаму" гадунцу Раманоўскаму косткай у горле засеў. Такая цана навуковасьці бэсэсэраўскага навуковага інстытуту гісторыі. Няхай сабе вышэйпрыведзеныя вытрымкі для ілюстрацыі бальшавіцкага хвальшу ўжытыя тут адно таму, што іх пісаў аўтар гэтага артыкулу. Калі-ж завяртанцы зь іхным „навуковым" інстытутам не асьмеліліся навет, каб слова ў слова непакалечанай мовай перадаць зусім здавалася-б няшкодную цытату з газэтнага артыкулу, дык што-ж тады гаварыць пра іншыя гэтак званыя дакумэнты, якіх у кнізе маса? На чым-жа тады палягае навуковасьць, калі не на дакладным пераказаньні думкі зь іншых крыніцаў — якія-б яны ні былі — ды сваіх аргумантаў у гэтай справе? Відаць замнога было-б гэтага спадзявацца ад бальшавікоў. Сотню гадоў таму назад К. Каліноўскі пісаў у сваім „Лісьце з-пад шыбеніцы": „...як дзень з ночай ня ходзіць разам, так ня йдзе разам навука праўдзівая зь няволяй маскоўскай".

У кнізе найбольшыя злачынцы супраць чалавецтва абвінавачваюць, як чытач ужо пэўна ўгадаў, гэтак званых беларускіх буржуазных нацыяналістых, што яны супрацоўнічалі зь гітлераўскай акупацыйнай адміністрацыяй у Беларусі, што вынішчалі народ, што наагул зьяўляюцца вырадкамі й паслугачамі антынародных сілаў і элемэнтаў, што цяперака працуюць шпіёнамі за даляры ў Амэрыканцаў, і маса іншай нясуладзіцы. Маскалі й іхныя бэсэсэраўскія цівуны ня могуць стравіць таго, што заходні вольны сьвет чуе праўду пра Беларусь, больш таго: ім аж да болю муляюць „роднапартыйныя" бюракратычныя крэслы, бо сам народ чуе голас вольнай беларускай эміграцыі. І як агню баіцца таго, каб не пазнаў наш народ праўды й ня стаўся вольным.

Кінўшы зірк у мінуўшчыну, ажно напрашваюцца, каб іх прыгадаць, падзеі і факты. Сямігадовая школа, якую я наведваў ў 1940-41-м гадох, стаяла зусім побач чыгуначнай двухкаляіннай магістралі з Полацку на Маладэчна й захад. Гэтак у часе заняткаў вучні хаця-нехаця сачылі рух на чыгунках. На захад амаль бесьперапынным патокам ехаў беларускі лес, збожжа, худоба на мяса, лён, бульба. З захаду эшалёны пераважна йшлі пустыя. Гэта маскоўскі тыран Сосо вытрыбушваў багацьці з нашай бацькаўшчыны й пасылаў іх Адольфу, што ў гэным часе дабіваў Французӑў. Пасьлей пачалі везьці й ваеннае знарадзьдзе. Беларускі прыгонны калгасьнік наглядаў вось за чыгункай дый ведаў, куды адплываюць зрабаваныя плёны ягонае працы.

Але Сосо не шманаў. Ён начхаў на тое, што ў беларускага селяніна й работніка жывот на поснай поліўцы ад голаду бурліў... Ён вось нядаўна зрабіў з Адольфам зусім надрэнны гяшэфт, Заходнюю Беларусь і Украіну праглынуўшы, ды ў балтыцкіх дзяржавах вольную руку атрымаўшы. Цяперака-ж памагаў Адольфу зрабаваным у нашага народу дабром, каб у будучыні самому яшчэ больш лакомы кусочак дастаць. Гісторыя сяньня дакладна ведае, што дзякуючы вось гэтай Сосавай дапамозе „гэрэнфольк" палажыў на лапаткі шмат вольных дзяржаваў, дый добра прызапасіўся, каб і на самога крамлёўскага тырана падрыхтавацца да скоку. Так і сталася. Адольф падставіў нагу свайму найлепшаму хайрусьніку 22-га чэрвеня 1941 г. Калі-б перад маскоўскім валадаром у гэны дзень зьявіўся сам барадаты Маркс, дык ён-бы так ня зьдзівіўся, як тым, што з усёй сваёй маланкавай магутнасьцяй кінуўся на яго ня хто іншы, а саўдзельнік у злачынствах, якога вось падкармліваў і абзапашваў гады два.

Ня так даўно адзін з блізкіх да вярхавіны савецкіх верхаводаў заявіў, што ў гэны час Сосо быццам быў спаралізаваны. Калі ягоныя арміі, пакідаўшы зброю й іншыя запасы, ганебна ўцякалі на ўсход, крамлёўскі валадар запёрся ў сваім катушку ў Крамлі, нічога не рабіў і нікога навет з найбліжэйшых сваіх бачыць не жадаў.

Чаму-б вось аб гэтым ня прыгадаць інстытуту гісторыі акадэміі навук БССР? „Роднапартыйны" гадунец Раманоўскі й ягоныя гаспадары ставяць карту на кароткую людзкую памяць. Дык мы прыгадаем, што сталася далей. Ачуняўшы ад першага ўструсу, пасьля доўгага маўчаньня, Сосо выдаў гэтак званы загад аб „голай зямлі", адрысаваны Чырвонай арміі й партызанам 3-га ліпеня 1941-га году. Вось што там, між іншага, гаварылася: „Ніводная лёкаматыва, ніводная чыгунка, кілаграм пшаніцы ці літар гаручага ня мусяць быць пакінутыя ворагу. Калгасьнікі павінны забраць з сабой усю хатнюю жывёлу. Партызанскія конныя й пяхотныя злучэньні мусяць быць сфармаваныя для ўзрыву мастоў і дарог, для зьнішчэньня тэлефонных і тэлеграфных камунікацыяў, для паленьня лясоў..."

Пазьней гэты загад пашырыўся і ў пляны татальнай вайны ўвайшла таксама дырэктыва масавага вынішчэньня ўсяго жывога насельніцтва й базы ягонага існаваньня — матар'яльнага інвэнтару.

Чуеш, як маскоўскія каляніялістыя й іхныя цівуны ў бэсэсэрыі, вокам ня міргнуўшы, часта прыгадваюць, што Немцы сваімі лятунскімі налётамі на нейкіх 85% разбурылі Менск, дашчэнту зруйнавалі Віцебск, Смаленск ды іншыя большыя беларускія гарады. Гісторыя ўжо ўстанавіла тое, аб чым людцы прамоўчваюць: самі бальшавікі, адступаючы, падпалілі Менск, руйнавалі ня толькі сталіцу, але й іншыя нашы гарады.

Адылі дарма на кароткую людзкую памяць разьлічваць. У вапошнюю вайну наш народ апыніўся між Сцыляй і Харыбдай; выскачы чалавек з вады, дык у вагонь трапіш. Ня было нідзе мірным людзём ратунку. А вайна-ж вялася за чужыя, варожыя нашаму працоўна-сялянскаму народу інтарэсы. Два тыраны — хіжакі схапіліся ўдужкі на нашай зямельцы, ды заўзяліся зрабіць зь яе пустыню, бо Беларус не хацеў служыць ані аднаму, ані другому. Абое рабое, як народная прыказка кажа.

За пасьляваенныя гады з-пад пёраў бэсэсэраўскіх пісьменьнікаў мільённымі тыражамі выйшлі на кніжны савецкі рынак пад рознымі загалоўкамі творы пра гэтак званую айчынную вайну й партызанаў. Ува ўсіх гэтых з мастацкага гледзішча малавартасных творах глёрыфікуецца перадусім беларускі партызан, падпольшчык, чырвонаармеец; умеючых самастойна думаць і добра помнячых вайну людзей партыйныя пісьменьнікі стараюцца пераконваць, што беларускі народ грудзьмі пляча ў пляча стаяў побач „старэйшага брата" ў вабароне бальшавіцкага рэжыму й ненавіснага яму прыгоннага антынароднага бязбожнага ладу. Бэсэсэраўцы ня прыгадваюць таго, што гэтаму вялікаму хвальшу запярэчыў ня хто іншы, а самае ў той час найбольшае іхнае сонейка, крамлёўскі Сосо. Гэта ён, сьвяткуючы перамогу ў травені 1945-га году на крамлёўскім банкеце, паднёс тост за расейскі народ і яму, як найбольш вернаму й услужліваму бальшавіцкай уладзе, выразна заўдзячваў перамогу. Ня прыгадваў Сталін ані Беларусаў, ані Украінцаў. Больш таго: меншыя народы на Каўказе й крымскіх Татараў у мерах рэпрэсіі за правіны падчас вайны Сосо загадаў высяліць на глум і зьнішчэньне ў Сібір.

Колькі-б ня славілі й не размалёвалі „роднапартыйныя" пісьменьнікі партызанаў у нямецкім тылу, народ добра прыгадвае, як было. Рукамі кіраваных апэргрупамі чэкістых партызанаў Сосо заўзяўся быў зьнішчыць усё жывое ў сваёй былай беларускай калёніі, у той час перахопленай бэрлінскім вылюдкам.

**К. Акула**

# ЗАКАНЧЭНЬНЕ КАЛЯДАЎ

Беларусы Таронта звычайна заканчваюць Каляды тады, калі адбудзецца ялінка для дзяцей. Гэтак вось і ў беларускай парахвіі сьв. Эўфрасіньні Полацкай закончыўся сэзон Калядаў у нядзелю 17 студзеня сёлета зладжаньнем ялінкі. Ялінка адбылася ў вабшырнай залі, якую мясцовыя Літоўцы „пасуседзку" нанялі нам за вельмі нізкую аплату. Зьбралася зьвыш трыццаці дзяцей рознага „калібру" ды, зразумела, гэтулькі-ж мамаў і татаў.

Праграма Вечару складалася з трох частак: мастацкай самадзейнасьці, раздачы падаркаў і гульнага пачастунку.

**Сьвята Ялінкі ў парахвіі сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Таронта**

Першым нумарам мастацкай часткі была аднаактовая п'еска „Два Капітаны" ў выкананьні Эвы й Паўла Пашкевічаў ды Язэпа Пітушкі. Пасьля п'ескі выступалі малыя музыканты зь ігрой на акардыёне. Першыя гралі дзьве дзяўчынкі — Даяна й Юля Чэчат. Тады Крыстына Стэпановіч грала таксама на акардыёне. Павал Пашкевіч граў на піяніне „Песьню бяз слоў" Мэндэльсона й „Саўку ды Грышку" Туранкова. Язэп Пітушка (ён-жа й канфэрансье) граў на піяніне „Лісток з альбума" Бэтховэна. Закончыла музычны канцэрт Алеся Сладкоўская, выконваючы на піяніне „Рапсодыю" Эйкстэна.

Каб „не мазоліць" вушэй толькі музыкай, тры дзяўчынкі, убраныя ў беларускія народныя касьцюмы, пратанцавалі „Польку-Янку". Гэтымі танцоркамі былі Алеся Сладкоўская, Ліля Шапарава й Эва Пашкевіч. І апошнім нумарам, можна сказаць найпрыгажэйшым, бо шматколерным й шматлюдным — быў калядны абразок — „Калядны Вечар". Выканаўнікаў цяжка тут пералічыць, бо між імі былі й Дзед Мароз, і Каляда, і анёлкі, і розныя зьвяркі.

Другая частка, на выгляд мала важная, але для дзяцей найважнейшая. Бо тут якраз, калі дзеці, зрабіўшы вялікі карагод вакол ялінкі ды засьпявалі „Саўку ды Грышку" й „Дзеда Мароза на санках белых", ён якраз і зьявіўся. Радасьці дзяцей ня было канца. Ролю Дзеда Мароза ўдала згуляў Павал Сладкоўскі. Ён расказаў дзецям гісторыю свайго спасьненьня, таму што абыйшоў спачатку ўсю Беларусь, невядзьвючы тамэшніх дзетак, ды наапошку прыплёўся й у Таронта. Ён расказаў яшчэ павучальную казку, каб дзеткі былі заўсёды добрымі й ніколі нікому не рабілі крыўды.

Трэцяя частка — пачастунак была наўсуперак славянскай „традыцыі". Праўда, ежачыны прыгатавалі вельмі смачныя закускі й было іх даволі шмат для шасьцёх дзесяткаў асобаў, але запівалі кавай і джынджэрэлай бязь ніякае „дамешкі"....

На заканчэньне належылася-б тут зладжыць падзяку за працу асабліва сп-ні Валянтыне Пашкевіч, а таксама ўсім, што працавалі, што памагалі й што прыйшлі хоць паглядзець. У нас Беларусаў вельмі важна, каб склікаць публіку. А то бывае часта й так: нехта напрацуецца, страціць свой час і кошт, а тымчасам нейкі „патрыёта" возьме дый ня прыдзе. Але гэтым разам нельга наракаць, бо зьбралася вялікая колькасьць.

**Я. П.**

# АГУЛЬНЫ СХОД БАЗА У НЬЮ ДЖЭРЗІ

У нядзелю 17 студзеня сёлета адбыўся ў Нью Брансьвіку Агульны Перавыбарны Сход сяброў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Джэрзі.

На старшыню Сходу быў выбраны сп. Аляксандар Стагановіч, а на сакратара — д-р Уладзімер Бакуновіч. Сп. А. Стагановіч, абыймаючы старшынства Сходу, запрасіў у ягоны Прэзыдыюм прысутнага старшыню Галоўнай Управы БАЗА д-ра Ст. Станкевіча, як ганаровага сябру. Пасьля ўшанаваньня памяці памерлых сяброў Аддзелу БАЗА й адчытаньня пратаколу з папярэдняга Агульнага Сходу, што адбыўся 5 траўня 1963 году, былі зробленыя справаздачы зь дзейнасьці Управы Аддзелу за ейную кадэнцыю старшынём уступаючай управы сп. Сяргеем Гутырчыкам, сакратаром Васілём Стомам і скарбнікам інж. Чаславам Ханяўкам.

Із справаздачы выявілася, што ўправа прарабіла вялікую й карысную работу. Апрача цякучай дзейнасьці, было зладжана 9 больших імпрэзаў. Зь іх заслугоўваюць на асаблівую ўвагу Жалобная Акадэмія з прычыны трагічнай сьмерці Прэзыдэнта Дж. Ф. Кеннэды ды сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня. Абедзьве імпрэзы былі зладжаныя ў сьнежні 1963 году. Важнейшымі імпрэзамі 1964 году былі: сьвяткаваньне 46-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Актам 25 Сакавіка, якое адбылося на высокім узроўні ў адмыслова нанятай залі ў Рогэр-Сьміт гатэлі, урачыстая Акадэмія з нагоды 300-годзьдзя штату Нью Джэрзі, што адбылася 18 кастрычніка 1964г. у ваднэй з аўдыторыяў Ратгэрс-Унівэрсытэту штату Нью Джэрзі, ды ўгодкі Слуцкага Паўстаньня, зладжаныя 29 лістапада 1964 году.

Сьвяткаваньне 46-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка не абмежавалася зладжаньнем урачыстай Акадэміі з багатай канцэртнай праграмай у Нью Брансьвіку. Управа Аддзелу БАЗА разам зь іншымі беларускімі арганізацыямі Нью Брансьвіку была выслала сваю дэлегацыю ў Трэнтон, у прысутнасьці якой губэрнатар штату Нью Джэрзі падпісаў праклямацыю, абвяшчаючы ў цэлым штаце дзень 25 сакавіка 1964 году Днём Дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі. Такая-ж дэлегацыя наведала й бурмістра Нью Брансьвіку, які ў ейнай прысутнасьці таксама падпісаў праклямацыю аб абвешчаньні ў гэтым горадзе 25 сакавіка сьвятам незалежнасьці Беларусі ды загадаў вывесіць на гарадзкой ратушы беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Усе сэнатары й амаль усе кангрэсмэны штату Нью Джэрзі былі прыслалі на 25 сакавіка 1964 г. прывітальныя лісты, у якіх выказалі пажаданьні хутчэйшага зьдзейсьненьня беларускага нацыянальнага ідэалу — вольнасьці й незалежнасьці Беларусі.

У сувязі з 300-годзьдзем штату Нью Джэрзі Аддзел БАЗА ўжо заканчвае прыгатаўляць брашуру аб Беларусі й Беларусах, якая хутка будзе выдадзеная друкам у ангельскай мове. Брашура гэтая станецца каштоўным інфармацыйна-прапагандовым матар'ялам пра Беларусь сярод амэрыканскага грамадзтва.

Улічваючы ўсе гэтыя заслугі, Рэвізыйная Камісія, на заканчэньне сваёй справаздачы, запрапанавала прызнаць уступаючай Управе абсалюторыюм зь вялікай падзякай. Прапанова была прынятая акламацыяй.

У новую Управу Аддзелу БАЗА былі выбраныя: сп. Сяргей Гутырчык — за старшыню, д-р Уладзімер Бакуновіч — за сакратара, сп. Янка Азарка, інж. Часлаў Ханяўка й Васіль Стома. Функцыі між гэтымі сябрамі Управы будуць падзеленыя на першым ейным пасяджаньні.

Рэвізыйная Камісія была перавыбраная ў ейным дасюлешнім складзе: сп. сп. Б. Даніловіч, Н. Стома й А. Корбут.

Сход закончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

